

Гродна
№17 (475),
17 верасня 2017
www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

# Асноўны клопат катэхетаў - дабро маладога пакалення



***"Fiunt, non nascuntur christiani" ("Хрысціянамі становяцца, а не нараджаюцца") – гаварыў вялікі хрысціянскі пісьменнік Тэртуліян. Гэтае выслоўе і сёння не траціць сваёй актуальнасці. З дня ў дзень мы павінны зноў і зноў узрастаць у веры, не забываць, што маем не толькі цела, але і душу, таму трэба клапаціцца не толькі аб фізічным і інтэлектуальным развіцці, але і, перадусім, аб духоўным. Асабліва гэта датычыць маладога пакалення, ад якога залежаць перспектывы заўтрашняга жыцця.***

● працяг на с. 4

## Каляндар падзей

***18 верасня***
*Успамін св. Станіслава Косткі, заступніка дзяцей і моладзі.*
***21 верасня***
*Свята св. апостала Мацвея.*
***23 верасня***
*Успамін св. Айца Піо з Пятрэльчыны.*
***29 верасня***
*Свята святых арханёлаў Міхала, Габрыэля і Рафала. Св. Міхал – заступнік каталіцкага Касцёла ў Беларусі. Молімся за пастыраў і вернікаў нашай краіны.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Верасень***
*Аб Божым бласлаўленні для дзяцей, моладзі, катэхетаў, настаўнікаў, апекуноў, якія распачынаюць новы навучальны і катэхетычны год. Аб дары мудрасці для іх.*
*Аб дары плённай перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай у дыяцэзіі і аб добрай падрыхтоўцы да дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам.*
*Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***"Сімвал веры"***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі.*
*Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".*
***Чарговы выпуск – у кастрычніку.***

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы.*
*Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*
*У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

**"Катэхізацыя – гэта стоўп навучання веры". Папа Францішак**




## XXIV ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Мц 18, 21–35**

Пётр падышоў да Езуса і сказаў Яму: "Пане, калі мой брат будзе грашыць супраць мяне, колькі разоў я павінен прабачаць яму? Ці аж сем разоў?". Езус адказвае яму: "Не кажу табе, што аж сем разоў, але аж семдзесят сем разоў. Таму Валадарства Нябеснае падобнае да караля, які захацеў разлічыцца са сваімі слугамі. Калі ён пачаў разлічвацца, прывялі да яго аднаго, які вінен быў яму дзесяць тысяч талантаў. Паколькі той не меў чым заплаціць, то гаспадар загадаў прадаць яго і жонку, і дзяцей, і ўсё, што ён меў, і заплаціць. Тады, упаўшы, слуга кланяўся перад ім і казаў: «Будзь велікадушны да мяне, і ўсё табе аддам». Гаспадар, злітаваўшыся над гэтым слугою, адпусціў яго і дараваў яму доўг. А калі гэты слуга выйшаў, знайшоў аднаго з сабратоў сваіх, які вінен быў яму сто дынараў, і, схапіўшы яго, душыў, кажучы: «Аддай мне, што вінен». Тады сабрат яго ўпаў да ног яговых і маліў яго, кажучы: «Будзь велікадушны да мяне, і аддам табе». Але той не захацеў, а пайшоў і пасадзіў яго ў вязніцу, пакуль не аддасць доўгу. Сабраты яго, убачыўшы, што здарылася, засмуціліся і, прыйшоўшы, расказалі гаспадару свайму ўсё, што сталася. Тады гаспадар яговы паклікаў яго і сказаў: «Нягодны слуга! Увесь твой доўг я дараваў табе, таму што ты папрасіў мяне; ці ж не належала і табе змілавацца над сабратам тваім, як і я змілаваўся над табою?». І, разгневаўшыся, гаспадар яговы аддаў яго мучыцелям, пакуль не верне яму ўсяго доўгу. Так і Айцец Мой Нябесны зробіць вам, калі кожны з вас ад сэрца вашага не даруе брату свайму".

### ДОЎГ ВЕЛІКАДУШНАСЦІ

Колькі разоў трэба прабачыць? Можна сказаць, недарэчнае пытанне. Калі чалавек міласэрны, то ён заўсёды прабачыць бліжняму. Цяжка сабе ўявіць асобу, якая б у аднолькавых абставінах аднаму прабачыла, а другому – не. Ці такую, якая б мела ў жыцці "перыяды прабачэння" і "перыяды непрабачэння". Вельмі часта чалавек прабачае толькі на словах.

Шмат гадоў таму ў вырашэнні крыўды і несправядлівасці з боку іншых народы Бліжняга Усходу кіраваліся прынцыпам "вока за вока, зуб за зуб". Кроўная помста была звычайнай справай. Аднак з праблемай непрабачэння ці жаданнем пакараць за крыўды сёння можна часта сустрэцца і ў нашым культурным асяроддзі. На колькі помслівых думак супраць бліжніх мы згаджаемся ў сэрцы? Колькі разоў пераходзім вуліцу, каб толькі не сустрэцца з крыўдзіцелямі? Колькі праклёнаў гучыць у іх адрас з нашых вуснаў? "Будзьце ж міласэрнымі, як і Айцец ваш міласэрны" (Лк 6, 36).

## XXV ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Мц 20, 1–16а**

Езус расказаў сваім вучням гэтую прыпавесць: "Валадарства Нябеснае падобнае да гаспадара дому, які выйшаў на світанні наняць работнікаў у вінаграднік свой. Дамовіўшыся з работнікамі па дынару за дзень, ён паслаў іх у вінаграднік свой. Пасля ён выйшаў каля трэцяй гадзіны і, убачыўшы іншых, якія стаялі на рынку без працы, сказаў ім: «Ідзіце і вы ў вінаграднік мой, і я справядліва заплачу вам». Яны пайшлі. Зноў выйшаўшы каля шостай і дзявятай гадзіны, зрабіў тое самае. Выйшаўшы каля адзінаццатай гадзіны, ён знайшоў іншых, якія стаялі без працы, і сказаў ім: «Чаму вы стаіце тут цэлы дзень без працы?». Яны сказалі яму: «Нас ніхто не наняў». Ён кажа ім: «Ідзіце і вы ў вінаграднік». Калі ж настаў вечар, гаспадар вінаградніку сказаў свайму эканому: «Пакліч работнікаў і заплаці, пачаўшы з апошніх да першых». І тыя, хто прыйшоў каля адзінаццатай гадзіны, атрымалі па дынары. Тыя, што прыйшлі першымі, думалі, што атрымаюць больш, але яны таксама атрымалі па дынары. Узяўшы, яны пачалі нараказць на гаспадара дому, кажучы: «Гэтыя апошнія працавалі адну гадзіну, і ты зраўняў іх з намі, якія перанеслі цяжкі дзень і спёку». У адказ ён сказаў аднаму з іх: «Дружа, я не крыўджу цябе. Хіба не аб дынары ты дамаўляўся са мною? Вазьмі сваё і ідзі. Я ж хачу даць гэтаму апошняму так, як і табе. Ці ж не дазволена мне рабіць са сваім тое, што хачу? Ці вока тваё зайздросціць, што я добры?». Гэтак апошнія будуць першымі, а першыя – апошнімі".

### УМЕЙМА ЦЕШЫЦЦА РАДАСЦЮ БЛІЖНЯГА

"Ці вока тваё зайздросціць, што я добры?". Гэтыя словы гаспадара вінаградніку з прыпавесці Езуса папярэджваюць аб небяспецы зайздрасці да бліжняга ў валоданні Божай ласкай, што з'яўляецца грахом супраць Святога Духа. Усім без выключэння людзям добры Пан падрыхтаваў найвялікшы дар – вечнае шчасце ў Яго Валадарстве. Гэтага не зразумелі наёмныя работнікі, якія працавалі цэлы дзень, але атрымалі столькі ж, як і тыя, хто адрабіў толькі гадзіну.

На першы погляд іх нараканні выдаюцца слушнымі. Аднак Бог аднолькава любіць усіх людзей і хоча збаўлення кожнага чалавека. Ці можна зайздросціць у асягненні Божага Валадарства, напрыклад, людзям сталага ўзросту, якія перажылі вайну, пераслед веры, цяжар жыцця, малым дзецям, якія памерлі амаль адразу пасля хросту? Мы павінны быць добразычлівымі да іншых і за ўсё дзякаваць нашаму Нябеснаму Айцу.

*Кс. Павел Эйсмант*



**Слова рэдактара**

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Катэхеза – гарантыя на сталае жыццё!

*Кожны чалавек усведамляе, што яму варта пастаянна вучыцца, каб здабываць новы досвед: як радасны, так і балесны, які дазваляе зусім па-іншаму зірнуць на жыццё.*

У наш час свет прапануе ўсё новыя і новыя сюрпрызы і прыемнасці, з-за чаго людзі нярэдка забываюцца пра сваё духоўнае развіццё. А разам з тым хрысціянскае жыццё павінна мець дынаміку. Шлях унутранага ўдасканалення неаднаразова патрабуе ад нас прыстасоўваць выбраныя духоўныя сродкі да нашых патрэб. Таму належыць нястомна пашыраць свае гарызонты, развіваць веру, імкнучыся толькі наперад, нават калі складваецца ўражанне, што гэтая дарога ўвесь час ідзе пад гару.

Каштоўная дапамога ў гэтым развіцці – катэхеза. На лекцыях рэлігіі дзеці і моладзь маюць цудоўную нагоду пазнаваць Пана і Яго гісторыю з самага пачатку існавання чалавека. Але катэхеза неабходна таксама і дарослым асобам, таму што многія па розных прычынах не мелі такой магчымасці ў свой час. Не раз ад бацькоў, чые дзеці рыхтуюцца да Першай св. Камуніі, можна пачуць, што яны вучацца разам з малымі, адкрываюць Бога, запаўняючы недахопы і пазнаючы праўды веры, якія раней былі для іх невядомыя.

На катэхезе чалавек нанова ўпэўніваецца, што Хрыстос яго любіць. Як неабходна гэтая ўпэўненасць і маладому, і старцу! З-за розных сітуацый і жыццёвых цяжкасцей, з-за сумненняў і расчараванняў у самім сабе і ў іншых людзях можна адчуць сябе нелюбімым, адзінокім ці адкінутым. Тады вельмі лёгка страціць веру ў сталую, верную, шчырую, ахвярную, нязменную любоў, якая ўсё прабачае. Заняткі рэлігіі ствараюць нагоду да пастаяннага кантакту з Хрыстом, які не толькі вучыць такой любові, але і адорвае ёю, сам з'яўляючыся Любоўю.

Катэхеза для кожнага чалавека – гэта шанс асабіста спазнаць, што Божыя запаведзі і праўды Евангелля слушныя. Яны ніякім чынам не абмяжоўваюць вольнасць асобы – толькі змяншаюць рызыку ашукання самога сябе праз здзяйсненне таго, што лягчэйшае, замест таго, што больш вартаснае. Евангелічныя нормы і правілы існуюць не каб абмяжоўваць нашу свабоду, але каб мы стала і поўнасцю карысталіся ёю. Не крыўдзілі сябе і іншых, а стаялі на старане любові, праўды і прыгажосці.

Удзел у розных формах катэхезы, прапанаваных у парафіях, – гэта не толькі права, але яшчэ і абавязак хрысціяніна, нават штосьці нашмат больш значнае – прывілея на асягненне больш глыбокай асабістай прыязнасці з Хрыстом.

**Дарагія Чытачы!**

Заахвочваем, каб чарговы навучальны і катэхетычны год быў для кожнага – незалежна ад узросту – шансам на яшчэ глыбейшае пазнанне Езуса Хрыста і на ўмацаванне любові да Яго Касцёла.

Пазнавайма Пана на занятках рэлігіі. Чытайма хрысціянскую літаратуру, шукайма Яго ў віртуальным свеце. Пастараймася таксама зазірнуць у Катэхізіс каталіцкага Касцёла, каб прыгадаць сабе галоўныя праўды веры і знайсці адказы на непакоячыя жыццёвыя пытанні.

**Да 100-годдзя аб'яўленняў Маці Божай у Фаціме 1917–2017**

# Ці павінны мы адчуваць трывогу пасля аб'яўленняў у Фаціме?

***Бог ёсць Любоў. Ён усіх прабачае і кожнага адорвае патрэбнымі ласкамі. Атачае любоўю бескарыслівай, ціхай, пакорнай, сціплай; любоўю, якая ніколі не скардзіцца і не вымушае; любоўю дасканалай. Баяцца яе можа толькі той, хто заграз у граху, чые ўчынкі і выбары пярэчаць волі міласэрнага Айца.***

Гэта пацвярджае гісторыя з самага пачатку стварэння: Адам і Ева, знаходзячыся ў Раі, былі шчаслівымі, бо трывалі побач з Панам. Аднак пасля таго, як яны парушылі Божы наказ, адчулі страх перад Усемагутным і схаваліся ад Яго (параўн.: Быц 3, 10). Здзейснены грэх непаслухмянасці здэфармаваў у іх сэрцах і вачах сапраўдны вобраз Бога.

Кожнае зло, учыненае чалавекам, патрабуе адкуплення. Гэта з-за нашых грахоў некалі Хрыстос аддаў жыццё на крыжы і тым самым адчыніў брамы ў Неба. А каб асцерагчы душы людзей ад пекла, Усемагутны часам мусіць выкарыстоўваць пагрозы ці нават пакаранне, што з'яўляецца адным з неад'емных элементаў выхавання чалавечай натуры.

Мноства прыкладаў гэтаму можна знайсці ў Старым Запавеце. Дастаткова ўзгадаць хаця б гісторыю Ноя. Людзі адвярнуліся ад Бога, ад Яго законаў, так, што "была вялікая разбэшчанасць чалавека на зямлі" (Быц 6, 5). Яны не хацелі навярнуцца, таму Усемагутны паслаў патоп – пакаранне, якое павінна было паказаць, што Ён з'яўляецца Панам гэтай зямлі, якую сам і стварыў. Так Бог хацеў таксама перасцерагчы, што калі людзі не навярнуцца, іх напаткае не толькі цялесная смерць, але і вечнае асуджэнне душы (параўн.: Ян 5, 14), паколькі кожны стане перад Апошнім Судом. Навучаючы людзей падчас сваёй зямной

*Боязь Божая з'яўляецца адным з дароў Святога Духа. Яна з аднаго боку павінна папярэджваць нас аб пакаранні, а з іншага – вучыць любові.*



*"Апошні Суд" – фрагмент фрэскі Мікеланджэла на алтарнай сцяне Сіксцінскай капэлы у Ватыкане*

вандроўкі, неаднаразова пра гэта паўтараў і Хрыстос: тыя, "хто чыніў дабро, выйдуць, каб уваскрэснуць для жыцця, а хто рабіў зло, – каб уваскрэснуць для асуджэння" (Ян 5, 29).

Падчас аб'яўленняў у Фаціме Марыя перасцерагае чалавецтва ад Божай кары, якая можа аказацца горшай за 2 сусветныя вайны з мінулага стагоддзя. Ці такая будучыня непазбежная? Не, таму што Бог ёсць Любоў! Падкрэслівае гэта і чарговая гісторыя з Бібліі пра жыхароў Ніневы, якія вельмі зграшылі супраць свайго Стварыцеля, і Іону, які заклікаў іх да навяртання. Пачуўшы папярэджанне з вуснаў прарока, ніневійцы апранулся ў жалобу, абвясцілі пост і малілі Пана аб прабачэнні. Міласэрны Бог выслухаў іх малітвы і выратаваў цэлы горад (параўн.: Іон 3, 1–10).

Марыя, падобна Іоне, папярэджвае нас: калі не навярнёмся, загінем. Перажываючы юбілейны год аб'яўленняў Маці Божай у Фаціме, давайце з асаблівай увагай прыслухаемся да Яе слоў. Учынім, як жыхары Ніневы, возьмем з іх прыклад веры і даверу да Божай міласэрнасці. Не трэба баяцца любові, змены свайго жыцця і навяртання!

*Кс. Юрый Марціновіч*

# А ці ведаеш, чым па праву Ты як хрысціянін можаш ганарыцца? Загінаем пальцы.

## 10 прычын для гонару хрысціяніна

### Хрысціянства праз Хрыста адкрыла ісціну, што Бог ёсць Любоў

У разуменні іншых рэлігій Усемагутны ўяўляўся і да сёння ўяўляецца як суровы і справядлівы Айцец, які карае за правіны. Хрысціянства адкрыла міласэрнага Стварыцеля, што для збаўлення чалавецтва паслаў свайго Адзінароднага Сына. Некаторыя з першых Айцоў Касцёла фармулявалі гэтую праўду так: праз увасабленне Бог сышоў да чалавека для таго, каб чалавека ўзвесці да Бога. Паслядоўнікі Хрыста пакліканы наследаваць найвышэйшую цноту. Паводле выказвання паэта Аляксея Талстога, Езус "усе законы Майсея Любові закону падпарадкаваў". "Любі Пана Бога твайго ўсім сэрцам тваім, і ўсёй душой тваёй, і ўсёй моцаю тваёй, і ўсім розумам тваім, і бліжняга свайго, як самога сябе" (Лк 10, 27). Хрыстос спрасціў у разуменні людзей запаведзі, якія патрэбны, каб засцерагчы чалавека ад грахоўнай залежнасці і дапамагчы яму адчуць шчасце ўжо тут, на зямлі.

### Хрысціянін мае магчымасць злучацца з Богам у сакраманце Эўхарыстыі

Пад відам хлеба і віна вернік прымае рэальнае Цела і Кроў Езуса. Кансэкрацыя Святых Дароў адбываецца падчас кожнай св. Імшы. Калі раней прычашчэнне было даволі рэдкай з'явай сярод хрысціян, то паступова сітуацыя змянілася. Сёння верніку рэкамендуецца прымаць св. Камунію не толькі ў святы і нядзелю, але і ў іншыя дні. Кананічнае права дазваляе здзяйсняць гэта нават двойчы на дзень, калі чалавек удзельнічае ў св. Імшы. Для гэтага павінны існаваць толькі 2 умовы: стан ласкі і правільны намер. "Праз Эўхарыстыю мы **(хрысціяне – заўв. аўт.)** ужо тут злучаемся з Нябеснай літургіяй і наперад смакуем вечнае жыццё" (ККК 1327). Св. Камунія, прынятая ў пакоры сэрца, дае сілы супрацьстаяць граху і мужнасць адказваць на выклікі часу.

### Хрысціянства не ў стане палегчыць пакуты чалавека, але можа надаць ім сэнс

Хрысціянская рэлігія дае магчымасць слабому здабыць духоўныя сілы, унутраную энергію, а нездароваму – знайсці ў сабе мужнасць успрыняць сваю хваробу як Божае наведванне, каб пераносіць яе з цярплівасцю і надзеяй на міласэрнасць Айца. Гэтыя цноты набліжаюць да Усемагутнага. І калі чалавек здзяйсняе хоць крок Яму насустрач, Бог са свайго боку робіць 10. Хрысціянская вера загартоўвае людскі дух. Дапамагае кожнаму перажываць выпрабаванні, нягоды і беды, якія выпадаюць на долю, як крыж, што мае свой асаблівы кошт пасля зямной вандроўкі.

### Дарогу ў Нябеснае Валадарства чалавеку адкрывае хрост

Кожны без выключэння прыходзіць у гэты свет з цяжарам першароднага граху. "Калі хто не народзіцца з вады і Духа, не можа ўвайсці ў Божае Валадарства" (Ян 3, 5). Да духоўнага адраджэння прыраўноўваецца сакрамант хросту. Адначасова з яго прыняццем чалавек далучаецца да членаў хрысціянскай Царквы. Цяпер ён асвечаны Божай ласкай і з яе дапамогай зможа асягнуць вечнае жыццё.

### Хрыстос – узор маральнай дасканаласці

Кожны свой учынак, кожнае слова хрысціянін спраўджвае з вучэннем і прыкладам Хрыста, імя якога вядома амаль што кожнаму ў гэтым свеце. Тое, што на працягу 2-ух тысячагоддзяў хрысціянства не зніжае высокую планку свайго маральнага ідэалу, сведчыць аб тым, што ён рэальна дасягальны. І прыклады таму – не толькі сотні тысяч святых, але і мільёны простых хрысціян, якія нястомна ўвасабляюць яго ва ўласным жыцці. Вядома, самому чалавеку гэта не па сілах, але з Богам магчыма ўсё (параўн.: Мц 19, 26).

### Хрысціянін пакліканы да гармоніі матэрыі і духа

Сэнс жыцця любога чалавека павінен палягаць на эвалюцыі душы, якая несмяротная. Але цела – абалонка душы – мае матэрыяльную прыроду, якую таксама ігнараваць недарэчна. Хрысціянін імкнецца спалучыць 2 існасці, каб адчуць сугучнасць Божага плану адносна паўнаты свайго стварэння.

### Хрысціянін не адзінокі

Кожны вызнаўца Хрыста з'яўляецца членам супольнасці. У Царкве ён знаходзіцца сярод сваіх братоў і сясцёр. Тут можа знайсці падтрымку або падставіць сваё плячо, падзяліцца радасцю або яе падарыць. І дзе б не апынуўся вызнаўца Хрыста ў сувязі з рознымі жыццёвымі абставінамі, хрысціянская супольнасць стане для яго родным прытулкам.

### Хрысціянства паклала пачатак друкаванню кніг, а таксама аказала ўплыў на адукацыю, мастацтва, прававую культуру

Першай у свеце друкаванай кнігай была лацінская Біблія. Першыя універсітэты ўзніклі на аснове царкоўных школ і ўваходзілі ў сістэму духоўнай адукацыі. Шэдэўры літаратуры, жывапісу, скульптуры адлюстроўваюць менавіта хрысціянскія матывы. Законы амаль ва ўсім свеце заснаваны на хрысціянскім вучэнні. І гэта толькі некаторыя прыклады прагрэсу, на які паўплывала хрысціянства.

### Хрысціянства – самая распаўсюджаная рэлігія ў свеце

На дадзены момант колькасць хрысціян на Зямлі вагаецца каля 2,4 млрд (трэць ад агульнай колькасці насельніцтва планеты). Найбольш іх можна сустрэць у Амерыцы, Еўропе і Афрыцы. Наступную пазіцыю ў рэйтынгу папулярных рэлігій з колькасцю прыхільнікаў каля 1,7 млрд займае іслам. Супрацоўнікі Цэнтра вывучэння глабальнага хрысціянства пры Тэалагічнай семінарыі Гордан-Конвел (ЗША) апублікавалі даследаванне, у якім паспрабавалі даць свой прагноз адносна развіцця хрысціянства да 2050 года. Дадзеныя сведчаць пра тое, што праз некалькі дзясяткаў гадоў паслядоўнікі Хрыста пераважна будуць складаць рэлігійную большасць. Цэнтрам хрысціянства ўжо праз 8 год стане... Афрыка! Лічба яго прыхільнікаў на Чорным кантыненце дасягне больш за 721 млн, а у 2050 годзе – 1,253 млрд. На ўсіх кантынентах колькасць хрысціян будзе прыбываць, і толькі ў Еўропе зменшыцца з 554 млн (2017 год) да 494,9 млн (2050 год).

Іншы прагноз на будучыню мае другі вядомы ў ЗША даследчы цэнтр "Pew". Яго аналітыкі мяркуюць, што да 2050 года колькасць мусульман і хрысціян амаль зраўняецца: 2,76 млрд (тут супрацоўнікі абодвух цэнтраў сыходзяцца ў дадзеных) і 2,92 млрд адпаведна. Чакаецца, што мусульмане будуць складаць больш за палову насельніцтва ў 51-й краіне свету.

Рэлігійны ландшафт планеты будзе змяняцца ў адным з накірункаў, калі тэндэнцыі застануцца актуальнымі. Але трэба ўсведамляць, што многія падзеі – навуковыя адкрыцці, узброеныя канфлікты, грамадскія рухі, палітычныя ўзрушэнні і шмат чаго іншага – маюць неспадзяваны характар. Менавіта таму прагнозы абмежаваны перыядам у 40 гадоў.

### Біблія паслядоўнікаў Хрыста ўзбагачана Новым Запаветам

Біблія лічыцца Святым Пісаннем у хрысціянскай і іудзейскай рэлігіях. Складаецца з 2-юх частак – Старога і Новага Запаветаў. Іудзейская традыцыя прызнае толькі Стары Запавет, хрысціянская – і Новы, дзе апісваецца жыццё і дзейнасць Хрыста, пашыраецца Яго вучэнне. Згодна дадзеным Кнігі рэкордаў Гінэса, агульны тыраж надрукаваных Біблій з 1815 па 1975 год склаў 2,5 млрд асобнікаў. Да сёння Святое Пісанне застаецца найбольш перакладаемай кнігай у свеце. На канец 2016 года Біблія выдадзена на 636 мовах (Новы Запавет перакладзены яшчэ на 1442 мовы).

**Кожнаму хрысціяніну варта валодаць пачуццём уласнай годнасці і ўласнай каштоўнасці, бо на гэта, як бачна, ёсць свае важкія прычыны.**

Ангеліна Пакачайла

# Слова для жыцця

### Папа Францішак



Езус нагадвае нам, што Яго шлях – гэта шлях любові, і не існуе сапраўднай любові без адрачэння ад сябе. Мы, хрысціяне, пакліканы не да таго, каб паддавацца бачанню гэтага свету, але каб яшчэ глыбей усведамляць неабходнасць пераадольвання цяжкасцей імкнення супраць плыні і ўгару.

Пан папярэджвае: "Бо той, хто хоча жыццё сваё зберагчы, загубіць яго, а хто загубіць жыццё сваё дзеля Мяне, той знойдзе яго" (Мц 16, 25). У гэтым парадоксе заключана залатое правіла, якое Бог упісаў у чалавечую прыроду, створаную ў Хрысце: толькі любоў дае сэнс і шчасце жыццю. Растрачіць свае таленты, сілы і час толькі каб зберагчы, захаваць і рэалізаваць самі сябе – гэта сапраўдны шлях да згубы або да сумнага і бясплоднага існавання. Калі ж мы жывём для Пана і будуем сваё жыццё на любові, як рабіў Езус, зможам адчуць смак праўдзівай радасці.

Фрагмент прамовы падчас сустрэчы з вернікамі на малітве "Анёл Панскі", 03.09.2017

### Кс. бп Аляксандр Кашкевіч



Першым асяроддзем, у якім ад заранку дзяцінства пачынаецца праца ў веры, з'яўляецца сям'я. Добра, калі менавіта ад бацькоў дзіця вучыцца знаку крыжа і малітве, паступова пазнае асноўныя праўды веры і атрымлівае веды пра Касцёл. Нават самым найлепшым чынам арганізаваная парафіяльная катэхеза не заменіць дзіцяці прыкладу бацькоў, якія разам кленчаць для малітвы, наведваюць нядзельную св. Імшу, рэгулярна прыступаюць да сакрамантаў і старанна спаўняюць іншыя рэлігійныя практыкі. Важна і тое, каб у хрысціянскіх сем'ях панавала атмасфера згоды і любові, дабрыні і міру, узаемнай павагі і падтрымкі ў цяжкасцях.

Святы Касцёл прыходзіць з дапамогай бацькам, руплівая і трывала рэалізуючы даверанаю яму місію выхавання і навучання, між іншым, праз сістэматычную катэхізацыю дзяцей і моладзі. На ўроках рэлігіі, арганізаваных парафіямі, маладыя людзі паступова пазнаюць Асобу і навуку Езуса Хрыста, вучацца прымаць актыўны ўдзел у літургіі і прыступаць да святых сакрамантаў, паглыбляюць жыццё малітвы і выхоўваюць уласнае сумленне. Так дзеці і моладзь узрастаюць у веры і становяцца сапраўднымі вучнямі Хрыста.

Фрагмент пастырскага ліста на распачацце новага 2017/2018 навучальнага і катэхетычнага года




◆ *Св. папа Ян XXIII абвешчаны заступнікам італьянскіх узброеных сіл. Пантыфікат Святога Айца працягваўся з 28 кастрычніка 1958 да 3 чэрвеня 1963 года. Раней ён працаваў у дыпламатыі Апостальскай Сталіцы (быў, між іншым, апостальскім дэлегатам у Балгарыі і Турцыі, а затым нунцыем у Францыі). Пасля выконваў абавязкі патрыярха Венецыі. Яго беатыфікаваў 3 верасня 2000 года папа Ян Павел ІІ, а кананізаваў 27 красавіка 2014 года папа Францішак.*

◆ *У Эрдэнэце (Манголія) узнікла каталіцкая парафія Божай Міласэрнасці. Яе афіцыйна ўстанавіў апостальскі прэфект Улан-Батора біскуп Венсэслао С. Падзілья CICM. Гэта адна з 3-ох новых парафій, якія павінны быць створаны ў бягучым годзе ў Манголіі. Хоць першая каталіцкая тэрытарыяльная адзінка ў гэтай краіне паўстала амаль 100 гадоў таму, на самой справе Касцёл там не існаваў. Яго нараджэнне стала магчымым толькі пасля ўпадку камуністычнага рэжыму і распачацця дэмакратычных змен у 1990 годзе. Тады сюды прыбылі першыя місіянеры. Сёння Касцёл у Манголіі налічвае больш за 1,3 тыс. вернікаў.*

◆ *У горным горадзе Фарайя (Ліван), заселеным пераважна хрысціянамі, устаноўлены і асвечаны найбуйнейшы ў свеце помнік святому. Статуя важыць 40 тон, мае 27 метраў у вышыню і 9,5 у шырыню. Яе аўтар – мясцовы скульптар Наіф Алван. Помнік узведзены ў знак падзякі за апеку і атрыманыя ласкі праз заступніцтва св. Шарбеля, які з'яўляецца адной з самых вядомых постацей ліванскай Царквы.*

◆ *Неўзабаве кінакампанія "Netflix" распачне здымкі фільма пра Святога Айца Францішка пад назвай "The Pope" ("Папа"). Стужка прадставіць не толькі яго абранне на Апостальскі Пасад, але таксама і жыццё перад пантыфікатам у якасці арцыбіскупа Буэнас-Айрэса (Аргенціна). Ужо вядома, хто сыграе галоўнага героя фільма. На ролю папы Францішка зацверджаны валійскі акцёр Джонатан Прайс, які здымаўся ў "Піратах Карыбскага мора", "Табу" і нават у адным з цыклаў пра Джэймса Бонда ("Заўтра не памрэ ніколі"). Мяркуецца, што фільм будзе зняты ў фармаце серыяла.*

◆ *Кардынал Луіс Антонія Тагле носіць стулу, выкананую з рэштак матэрыялаў. Яе святар атрымаў у падарунак ад адной з жыхарак трушчоб Манілы (Філіпіны). Яшчэ 10 гадоў таму падчас візіту ў краіну, дзе пражывае шмат бедных людзей, мітрапаліт сталічнай архідыяцэзіі размаўляў з Сінціяй Кабрэра, якая займаецца дадзеным рамяством. Тады іерарх і папрасіў жанчыну вырабіць для яго такую стулу. Майстрыха выканала заказ праз 2 гады, але не ведала, як перадаць яго кардыналу. Яна змагла асабіста ўручыць выробленую стулу толькі падчас кангрэсу новай евангелізацыі, які нядаўна адбыўся ў Філіпінах.*

*credo.pro; pch24.pl; niedziela.pl*

*Ангеліна Пакачайла*

● працяг са с. 1

# Асноўны клопат катэхетаў – дабро маладога пакалення


*Катэхеты да кожнага знаходзяць свой падыход, каб данесці Божае слова*

*Слова "катэхізацыя" паходзіць ад грэчаскага слова "katecheo". Літаральнае яго значэнне – "прамаўляць з гары" або "выклікаць рэха". Пазней катэхізацыя пачала ўспрымацца як "навучанне". Паняцце азначае такое абвяшчэнне Евангелля Хрыста людзям, якое б адгукнулася ў іх сэрцах моцным рэхам з мэтай іх перамянення. Галоўнай мэтай катэхезы з'яўляецца развіццё веры з Божай дапамогай.*

***Вялікую ролю ў маральным выхаванні дзяцей і моладзі адыгрываюць катэхеты. Яны з'яўляюцца як быццам працягам рук і вуснаў Хрыста ў справе пашырэння Божага Валадарства. Катэхеты не толькі тлумачаць галоўныя праўды веры, але таксама вучаць адказнасці, працавітасці, шчырасці, любові да бліжняга...***

***На пачатку новага навучальнага і катэхетычнага года аб ролі і выкліках сучаснай катэхізацыі мы пагутарылі з манахінямі з Кангрэгацыі Сясцёр святой Ядзвігі (ядзвіжанкамі), якія распачалі сваё служэнне ў гродзенскай парафіі Святога Духа.***

**Якую ролю ў маральным выхаванні маладога пакалення адыгрывае сям'я?**

**С. Францішка:** Безумоўна, першымі і нязменнымі выхавацелямі ў веры для сваіх дзяцей з'яўляюцца бацькі. Цешыць, калі ў сям'і існуе практыка штодзённай супольнай малітвы, удзелу ў нядзельнай св. Імшы, карыстання са св. сакрамантаў, калі дом з'яўляецца тым асяроддзем, дзе пануе атмасфера ўзаемнай чуласці, павагі, даверу, любові да Хрыста. Але гэта не звальняе бацькоў ад абавязку клапаціцца аб тым, каб дзеці наведвалі ўрокі рэлігіі, арганізаваныя пры парафіях.

Дзякуючы намаганням катэхетаў, святароў, манаскіх сясцёр і свецкіх асоб была падрыхтавана адмысловая праграма па рэлігійным навучанні, пачынаючы ад дзіцячага садка і аж на да 11-га класа. У ёй прадугледжаны тэмы, адпаведныя ўзросту вучняў, якія дазваляюць маладым людзям сістэматычна навучацца рэлігіі і ўзрастаць у веры. Праз катэхізацыю мы прывіваем дзецям і моладзі хрысціянскія каштоўнасці, развіваем іх духоўны патэнцыял. Падрастаючае пакаленне – найкаштоўнейшы скарб, які трэба берагчы і дбаць пра тое, каб у сэрцах дзяцей і моладзі было пасеяна зерне Божай праўды. Яно павінна прыносіць плён на працягу ўсяго жыцця.

*Галоўнай задачай сясцёр св. Ядзвігі, згодна з воляй заснавальніка кс. Роберта Спіске, з'яўляецца хрысціянскае выхаванне і навучанне дзяцей і моладзі, якое базуецца на вучэнні Касцёла.*

**Часам бацькі апраўдваюць ігнараванне заняткаў катэхезы недахопам часу ў сваіх дзяцей...**

**С. Вікторыя:** Так, дзеці ў школе вывучаюць шэраг прадметаў, а таксама наведваюць факультатыўныя заняткі, спартыўныя секцыі і гурткі. Канешне, бацькі правільна робяць, што інвестуюць вольны час маладых людзей у атрыманне дадатковай адукацыі. Але трэба імкнуцца не толькі навучаць дзяцей і моладзь, але і выхоўваць.

У гэтым плане навука рэлігіі не саступае школьным прадметам, паколькі дае не толькі веды, але і сапраўдную жыццёвую мудрасць, навучае таму, як любіць Бога і бліжняга, быць сумленным чалавекам і адказным грамадзянінам, паважаць людзей, дапамагаць і прабачаць. Без катэхезы вучні не атрымаюць такога неабходнага для іх гарманічнага развіцця духоўнага элементу.

На жаль, часта сустракаемся з сітуацыяй, калі катэхеза ўспрымаецца выключна як падрыхтоўка да Першай Камуніі. Гэта вялікая памылка, бо хрысціянская фармацыя не павінна заканчвацца ніколі.

**Якое месца ў жыцці маладой асобы займае катэхеза?**

**С. Францішка:** Чалавек праходзіць розныя этапы сталення. Кожны з іх цікавы і адметны па-свойму. Дзеці растуць, пазнаюць свет, пачынаюць закранаць вострыя праблемы і задаваць хвалюючыя пытанні філасофскага, псіхалагічнага, маральна-этычнага характару. І тут катэхет можа адыграць вельмі важную ролю. Але толькі ў тым выпадку, калі зможа ўсталяваць даверлівыя адносіны са сваімі вучнямі.

**Якім павінен быць сучасны катэхет?**

**С. Вікторыя:** У сённяшняга пакалення вельмі шырокі кругагляд. Яно ў нечым разумнейшае за нас і больш актыўнае. У сувязі з гэтым і катэхетам нельга заставацца на месцы, быць абыякавымі. Трэба станавіцца больш жывымі і дынамічнымі. Гэта цудоўна, што моладзь натхняе нас на актыўную дзейнасць і пошукі новых шляхоў евангелізацыі.

**С. Францішка:** Варта таксама падкрэсліць, што служэнне рэлігійнаму навучанню патрабуе адказнасці з боку катэхета. Ён павінен удасканальвацца духоўна і інтэлектуальна, паколькі ад яго асобы шмат у чым залежыць эфектыўнасць працэсу катэхізацыі. Навучанне, выхаванне і ўтаемнічэнне дзяцей у хрысціянскае жыццё павінна адпавядаць патрабаванням і выклікам часу.

**У чым асаблівасці працы з маладымі людзьмі?**

**С. Францішка:** Дзеці і моладзь часта адхіляюць тое, што ім навязваецца. Каб мець з імі кантакт, каб дапамагчы ім закласці трывалы жыццёвы фундамент, трэба стаць іх сябрамі. Я ўпэўнена, што сучасная моладзь гатова адкрывацца на дабро, на рэлігійныя каштоўнасці. Наша заданне – дапамагчы гэтым хлопцам і дзяўчатам глыбей зразумець веру, навучыць жыць ёю кожны дзень.

**С. Вікторыя:** Дзеці, як губка, усё ўбіраюць у сябе і сваё далейшае жыццё будуць будаваць на падмурку, закладзеным у дзяцінстве. Наша задача – паклапаціцца аб тым, каб пазнанне Божага слова, карыстанне са святых сакрамантаў дапамагло маладому чалавеку ў духоўным сталенні, каб у глыбіні сваёй душы ён мог чуць і распазнаваць голас Бога, а таксама ў любых жыццёвых сітуацыях прытрымлівацца правіл Евангелля ды кіравацца наказамі дабра і сумлення.

*Падручнікі па рэлігіі змяшчаюць крэатыўныя заданні, каб вучні маглі лепш засвоіць галоўныя тэмы Евангелля*


*Катэхеты павінны няспынна развівацца, здабываць новыя веды. У гэтым ім дапамагаюць адмысловыя рэкалекцыі*

*Св. Ян Павел II у Апостальскай адгартацыі пра катэхізацыю вучыць, што яе сутнасць у пазнанні асобы Езуса, нашага Збаўцы, які з'яўляецца "Дарогай, Праўдай і Жыццём" (Ян 14, 6). А сапраўднае хрысціянскае жыццё заключаецца ў наследаванні Хрыста дзеля з'яднання з Ім.*

*Кінга Красіцкая*

# Катэхеза для дарослых

**Калі старэйшыя людзі думаюць, што ўсё ведаюць, то моцна памыляюцца. Новыя выклікі часу, новыя жыццёвыя абставіны – і чалавек гатовы прысесці, каб паслухаць праўду. А праўда адна – у Богу. Таму катэхеза прысутнічае ў жыцці свядомага верніка пастаянна.**

## Упершыню пасля прыняцця першых сакрамантаў чалавек зноў праходзіць катэхетычны курс перад вельмі адказным крокам у сваім жыцці – заключэннем сужэнскага саюзу.


**Кс. Павел Скуба**
катэхізуе маладыя пары перад сакрамантам сужэнства

*Па сваёй сутнасці катэхеза перад прыняццем сакраманту шлюбу павінна быць паглыбленнем ужо наяўных ведаў, але часта яна з'яўляецца аднаўленнем у памяці чалавека асноўных праўд з Катэхізіса. Нярэдка з маладымі людзьмі даводзіцца ўсё вучыць нанава, таму што альбо вера для іх была не вельмі важная ў жыцці, альбо яны растрацілі практычна ўсё, што пазналі перад Першай св. Камуніяй і канфірмацыяй. Тых, хто сапраўды добра ведае Катэхізіс, малітвы, асновы сваёй веры, прыкладна толькі трэць ад агульнай колькасці.*

*Перадшлюбная катэхеза паказвае маладым людзям Божы погляд на сужэнства, вучэнне Касцёла адносна многіх момантаў сумеснага жыцця, разглядае шматлікія пагрозы і праблемы, якія могуць узнікнуць у шлюбе. Яе спецыфіка палягае на тым, каб падрыхтаваць маладую пару да сапраўднага, годнага і плённага прыняцця важнага сакраманту, каб нарачоныя не ставілі перашкод Стварыцелю і маглі атрымаць усю паўнату Божай ласкі. Як правіла, перадшлюбная катэхеза ўключае 8 заняткаў, пасля якіх пара здае выніковы экзамен.*

*Безумоўна, многім гэтыя сустрэчы дапамагаюць. Людзі пераацэньваюць сваю веру, расстаўляюць на правільныя месцы каштоўнасці, усведамляючы свае памылкі. Пасля дзякуюць, дзеляцца, што адкрылі для сябе, як шмат звязана з духоўным жыццём чалавека. Іншыя ж, наадварот, нібы адбываюць павіннасць: "трэба хадзіць на катэхезу, бо не павянчаюць". Спрабуеш звяртаць увагу нарачоных, што неабходна карыстацца атрыманым вопытам, аднак іх пазіцыя часам востра скептычная і грэблівая. Але калі казаць увогуле, то, канешне, большасць маладых пар успрымаюць гэтыя заняткі пазітыўна.*

## Час ад часу вернік перажывае рэкалекцыі, якія, як правіла, уключаюць у сябе і катэхетычны цыкл.


**Кс. Віктар Ханько**
катэхізуе вернікаў падчас рэкалекцый

*Сёння чалавек можа шмат ведаць пра Бога, але зусім не ведаць Яго. Таму вельмі важна не спыняцца на вывучэнні праўд хрысціянскай веры, запаведзей, норм маралі, але і, перадусім, практыкаваць іх у жыцці. Падтрымкай у гэтай справе служыць Святы Дух, асаблівае дзеянне якога можна адчуць падчас рэкалекцый.*

*Трэба заўважыць, што ў кожнага верніка сваё разуменне "рэкалекцый". Для кагосьці гэта споведзь падчас Адвэнту ці Вялікага посту, для некага – дні маўчання і трывання з Богам у Найсвяцейшым Сакраманце, для іншых – слуханне канферэнцый і разважанне над Божым словам. І ўсё гэта мае месца быць у залежнасці ад прагнення душы. Пажадана мець духоўнага кіраўніка, які, абапіраючыся на стан чалавека, можа падказаць, у чым ён зараз мае асаблівую патрэбу. Гэта могуць быць рэкалекцыі для сужэнцаў, на тэму прабачэння ці граху або заснаваныя на посце і малітве ў цішыні.*

*Галоўная тэма любых рэкалекцый – Бог ёсць Любоў. Сабраныя разважаюць над пытаннямі: "А ці сустрэў я Пана?", "Што мне замінае пачуць голас Айца?". Вынікам духоўных практыкаванняў павінна быць наладжванне жывых адносін з Богам. Як паказвае практыка, 1-2 разы на год кожнаму свядомаму верніку варта перажываць падобныя рэкалекцыі.*

## Падчас катэхезы кожны можа знайсці для сябе патрэбныя словы.


**Кс. Анджэй Ганчар**
катэхізуе зняволеных у турмах

*Людзі, якія трапілі ў турму, безумоўна, задаюцца пытаннямі: "Што мяне сюды прывяло?", "Чаму так сталася ў маім жыцці?", "Дзе я «зламаўся»?". Галоўнае, аб чым, пэўна, усе сябе пытаюць – ці не пакінуў іх Бог, і як да Яго наблізіцца. Гэта натуральна, бо абумоўлена псіхалогіяй чалавека. Таму зняволеныя часта шукаюць падтрымкі святара. І для іх няма розніцы: католік, праваслаўны, мусульманін.*

*Размову мы пачынаем з таго, што знаёмімся. Спярша я даю чалавеку магчымасць выказаць самому, падзяліцца ўласнымі перажываннямі, праблемамі. А потым прыступаю да катэхезы з тым акцэнтам, што Бог побач, Ён не пакінуў.*

*Насамрэч, усе гэтыя людзі адкрыты на дыялог. Можна дапусціць, што ў такіх абставінах чалавек больш глыбока перажывае катэхезу. Калі дзеці, моладзь або дарослыя вяртаюцца з катэхетычных заняткаў дадому, іх зацягвае вір штодзённасці, яны перастаюць думаць пра пачутае. А ўмовы, абмежаваныя 4-ма сценамі, дыктуюць зусім іншыя правілы. Духавенства, якое наведвае зняволеных, увесь час захоўвае іх дзяліцца тым, пра што даведаліся, абмяркоўваць гэта паміж сабой. Тады ў людзей могуць узнікаць іншыя пытанні, з-за чаго яны імкнуцца пазнаць праўды веры больш дасканала.*

## Катэхеза ўсяляе надзею.


**С. Стэла Ядкоўская CSFN**
катэхізуе хворых у бальніцах

*На працягу жыцця мы клапоцімся пра сваё цела: спажываем ежу, адпаведна апранаемся. Некаторыя на ўласным прыкладзе ўпэўніваюцца ў тым, наколькі чалавечы арганізм слабы, і далёка не ўсё залежыць выключна ад цябе самога. І што тады? Я нагадваю людзям пра душу, якая несмяротная. Прыношу Катэхізіс, дзе сабраны асноўныя малітвы, апісаны Божыя і касцёльныя запаведзі. Здараецца, штосьці тлумачу. Дапамагаю падрыхтавацца да споведзі, каб прыняць у сваё сэрца жывога і сапраўднага Езуса. Ёсць такія няшчасныя, якія не прыступалі да сакраманту пакаяння 50-60 гадоў!*

*Часам хтосьці адмахваецца: "Я падумаю". Але якое "падумаю"? Сёння я гавару з чалавекам, а заўтра ён можа адысці ў вечнасць. Некаторыя настроены агрэсіўна, крычаць, каб зачыніла дзверы з адваротнага боку. І я зачыняю, але перад гэтым прашу падумаць пра сябе. Праз некаторы час людзі ўсё роўна "ламаюцца", бо гэта звязана з прыродай чалавека, які па натуры сваёй прагне Бога.*

*Аднойчы мужчына запэўніваў мяне: "Я атэіст!". А я яму: "Каб быць атэістам, трэба мець моцную веру...". І ён у замяшанні. Да кожнага неабходны асабісты падыход. Калі не атрымліваецца з аднаго боку, трэба спрабаваць з другога: лавіць чалавека, як рыбу. Галоўнае, прасіць Святога Духа. Бо гэта не мы дзейнічаем, але Бог праз нас.*

## Любая катэхеза скіравана да сэрца чалавека.


**Кс. Валерый Лісоўскі**
катэхізуе глуханямых

*Органы ўспрымання толькі дапамагаюць спасцігнуць праўду пра Бога – яе трэба адчуць. Людзі, пазбаўленыя здольнасці чуць і гаварыць, пазнаюць Пана праз вобразы. Яны глядзяць на абразы, фігуры, табернакль і з Божай ласкай перажываюць Яго прысутнасць у сваіх душах.*

*Нягледзячы на тое, што ўспрыманне навакольнага свету глуханямымі абмежавана 3-ма тысячамі жэстаў і паняццяў (70-цю тысячамі – тымі, хто валодае зрокам і слыхам), нельга сцвярджаць, што іх вера павярхоўная. Падчас катэхезы глуханямыя шмат пытаюць, цікавяцца нейкімі рэчамі, просяць нешта патлумачыць падрабязна.*

*Такія людзі вельмі шчырыя, больш глыбока давяраюць. Яны жывуць у цішыні, чаго нам сёння не хапае... Глуханямыя не могуць спаўна выказаць і падзяліцца ўсім тым, што перажываюць у сваім сэрцы. Але я ўпэўнены, што іх душа напоўнена Божай прысутнасцю не менш.*

***Кожная гамілія падчас св. Імшы з'яўляецца своеасаблівай катэхезай, калі сам Бог праз святара прамаўляе да нас. Трэба толькі захацець і адкрыцца на прыняцце праўды, якая скіравана да кожнага асабіста ў дадзены момант жыцця.***

*Ангеліна Пакачайла*




Catholic.by

### Знакамітая "Чорная Мадонна" стала белай

***Шартрскі сабор, які лічыцца шэдэўрам французскай готыкі, пасля 10-гадовай рэстаўрацыі стаў светлым, а разам з ім пабялела і драўляная скульптура XVI ст.***

*"Чорная Мадонна" – гэта выява Панны Марыі з Дзіцяткам Езус у вобразе Валадара і Валадаркі нябесных. Паводле меркавання спецыялістаў, чорнай фігура была не заўсёды, таму яе вырашылі ачысціць ад шматгадовай сажы і бруду.*

*Пасля рэстаўрацыі, як лічаць некаторыя вернікі, сабор страціў свой векавы каларыт і цяпер выглядае як новапабудаваны. Майстры, у сваю чаргу, сцвярджаюць, што вярнулі святыні і яе аздабленню першапачатковы выгляд.*




### На мяркуемыя рэліквіі аднаго з Апосталаў натрапілі ў Рыме

***Фрагмент косці з надпісам, што гэта мошчы св. Пятра, быў знойдзены падчас рамонту касцёла Санта-Марыя-ін-Капэла ў невялікай урне пад менсам алтара.***

*Змешчаныя на скрыні пазнакі ідэнтыфікуюць таксама рэліквіі іншых Пантыфікаў першых стагоддзяў, святых Карнэлія, Каліксто і Фелікса. Знаходку адразу перадалі для захоўвання і вывучэння ў вікарыят Рымскай дыяцэзіі.*

*На дадзены момант інфармацыя пра паходжанне рэліквій і іх аўтэнтычнасць не ўстаноўлена. Вядома толькі тое, што парэшткі св. Пятра ў першых стагоддзях пераносіліся ў розныя месцы Вечнага Горада.*




### Чэхі зварацъ піва для папы Францішка

***Прыгатаваннем напою займецца галоўны півавар бровара "Будвар" (вядомы таксама як "Будвайзер") з Чэшскіх Будзеёвіц, а варку благаславіць біскуп Уласіміл Крочэ.***

*Святы Айцец атрымае спецыяльную партыю піва ад дэлегацыі горада падчас агульнай аўдыенцыі 13 снежня.*

*Раней піва для папы Францішка варыла фірма "Cape May Brewing Company", якая аб'ядноўвае крафтавых піваваpаў. Ідэя ўзнікла напярэдадні візіту Пантыфіка ў ЗША ў 2015 годзе.*

*Кінга Красіцкая*

## Вернікі з Сапоцкіна здзейснілі пешае паломніцтва ў Калеты

*Падчас пілігрымкі вернікі з парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча на чале з пробашчам кс. Антоніем Абухоўскім і манахінямі з Кангрэгацыі Дачок Маці Божай Балеснай маліліся праз заступніцтва Найсвяцейшай Панны.*



Напрыканцы падарожжа ў капліцы Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі дарослыя, дзеці і моладзь прынялі ўдзел у адпустовай урачыстасці. Пілігрымы і ўсе прысутныя ў святыні маліліся ў інтэнцыі сваёй парафіі, а таксама за сем'і, каб яны былі моцныя Богам і перадавалі новым пакаленням хрысціянскія каштоўнасці. Дзеці і моладзь асабліва прасілі аб Божым бласлаўленні на новы навучальны і катэхетычны год.

Урачыстасць у капліцы завяршылася эўхарыстычнай працэсіяй.

## Рэкалекцыі для кандыдатаў у міністранты з Навагрудка адбыліся ва Уселюбе

*Навучанне праходзіла пры парафіі св. Казіміра.*



Рэкалекцыі сталі для хлопцаў часам малітвы і праслаўлення, духоўнага яднання з Айцом. Заняткі дапамаглі ўдзельнікам адкрыць сваё сэрца на Бога і зрабіць важны крок да прыняцця служэння ў касцёле.

Парафія св. Міхала Арханёла з Навагрудка, што арганізавала рэкалекцыі, ладзіць падобныя мерапрыемствы ўжо не першы год. Іх мэтай з'яўляецца пашырэнне і абнаўленне літургічнай службы алтара. Духоўныя практыкаванні таксама спрыяюць адкрыццю ў будучыні маладымі людзьмі святарскага паклікання.

## Катэхеты прынялі ўдзел у рэкалекцыях

*Галоўнай тэмай духоўных практыкаванняў, арганізаваных для навучэнцаў і выпускнікоў катэхетычных курсаў пры Аддзеле каталіцкага навучання і выхавання біскупскай курыі, была новая евангелізацыя.*



Падчас канферэнцый гучаў заклік да асабістай сустрэчы з Езусам і сведчання аб Ім сваім жыццём і словам. Удзельнікаў заахвочвалі глядзець у будучыню, здзяйсняючы новую ў сваім запале, метадах і сродках евангелізацыю. Акрамя лекцыйных заняткаў частку свайго часу катэхеты праводзілі на малітве: удзельнічалі ў св. Імшы і адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту.

У рэкалекцыях прынялі ўдзел больш за 50 чалавек. Час духоўных практыкаванняў дазволіў сабраным аднавіць свае адносіны з Богам і даў матывацыю да далейшага духоўнага і прафесійнага развіцця.

## Супольнасць маладых людзей "OPEN" распачала чарговы год фармацыі

*На першай пасля летняга адпачынку сустрэчы члены Душпастырства студэнтаў і старэйшай моладзі Гродна вырашылі арганізацыйныя пытанні і вызначылі планы на будучыню.*



Душпастырства "OPEN" адкрыта на кожнага маладога чалавека, які жадае пазнаваць Бога. "Калі ты студэнт або ўжо скончыў вучобу, жывеш у Гродне ці ў ваколіцах, шукаеш хрысціянскую супольнасць маладых людзей і, самае галоўнае, не хочаш праспаць сваё жыццё, то цябе чакае наша душпастырства", – звяртаецца да маладых людзей духоўны кіраўнік кс. Антоній Грэмза і запрашае ахвотных на сустрэчы, якія праходзяць пры гродзенскім пабрыгіцкім касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі.

**План сустрэч душпастырства "OPEN":**

панядзелак, 20.00 – *біблійная група "Effata"*

аўторак, 20.00 – *дабрачынная група "Уваскрасенне"*

чацвер, 19.15 – *св. Імша і агульная сустрэча*

пятніца, 20.30 – *адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту*

## "Катэхет – місіянер Езуса Хрыста на ўзор Марыі"

*Пад такім дэвізам у парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне адбылася сустрэча катэхетаў. На ёй прысутнічалі святары, манаскія сёстры, свецкія асобы.*



У межах мерапрыемства адбылася канферэнцыя, падчас якой удзельнікам нагадвалася аб тым, што перад кожным катэхетам стаіць вялікая справа перамянення свету, а каб гэта стала магчымым, трэба ўсё часцей і бліжэй выходзіць да людзей.

Пробашч парафіі а. Дзмітрый Лабкоў CSsR пазнаёміў прысутных з тым, як выглядае катэхізацыя дзяцей і моладзі ў іх мясцовай супольнасці. Святар адзначыў, што ў гэтым годзе катэхезай ахоплена больш за 1500 чалавек, якія наведваюць урокі рэлігії ў парафіяльных класах. Таксама пробашч распавёў аб душпастырскіх ініцыятывах, мэтай якіх з'яўляецца духоўнае развіццё дзяцей і моладзі.

Сустрэча завяршылася св. Імшой, якую ўзначаліў кс. канонік Ян Кучынскі, біскупскі вікарый Гродзенскага рэгіёна. Па словах святара, усе, хто адказвае за катэхізацыю ў сваёй парафіяльнай супольнасці, павінны нястомна развівацца. "Каб штосьці даць іншаму чалавеку, трэба найперш мець гэта самому", – падкрэсліў кс. Ян. Святар таксама адзначыў, што патрэбныя веды і жыццёвую мудрасць кожны катэхет мусіць чэрпаць з крыніцы Божай праўды.

## АНОНСЫ

### КАТЭХЕТЫЧНЫЯ КУРСЫ Ў ГРОДНЕ АБ'ЯЎЛЯЮЦЬ НАБОР НАВУЧЭНЦАЎ

**Дадзеныя курсы рыхтуюць спецыялістаў для катэхетычнай працы ў парафіях. Далучыцца да ліку студэнтаў могуць таксама тыя ахвотныя, якія жадаюць глыбей пазнаць хрысціянскую веру і стаць праваднікамі на шляху да збаўлення.**

У адукацыйнай праграме прадугледжана вывучэнне такіх прадметаў, як каталіцкая дагматыка, маральная і духоўная тэалогія, Святое Пісанне, катэхетыка, кананічнае права, літургіка, каталіцкая псіхалогія і педагогіка, этыка сямейнага жыцця і інш. Навучанне адбываецца ў завочнай форме. Працягваецца 3,5 гады.

**Кандыдаты павінны прадставіць у сакратарыят Гродзенскай курыі наступныя дакументы:**

- пасведчанне аб сакраманце хросту,
- атэстат сталасці,
- медыцынскую даведку,
- 4 фатаграфіі,
- ксеракопію пашпарта,
- уласнаручна напісаную аўтабіяграфію,
- рэкамендацыю ад пробашча,
- заяву з просьбай аб прыняцці.

Прадугледжана папярэдняя суразмова. Заняткі распачнуцца 30 верасня. Будуць праходзіць праз кожныя 2 тыдні ў суботу і нядзелю.

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: (8 0152) 75-33-08. E-mail для даведак: katecheza.kuria@gmail.com.*

### ВЯДОМЫ РЭКАЛЕКЦЫЯНІСТ З ПОЛЬШЧЫ НАВЕДАЕ ГРОДЗЕНСКУЮ ДЫЯЦЭЗІЮ

**У канцы верасня кс. Ян Рэчэк, які практыкуе малітву аб аздараўленні і ўнутраным вызваленні, правядзе рэкалекцыі ў некалькіх парафіях дыяцэзіі.**

**Праграма:**

**27 верасня, пачатак у 15.00**
Парэчча (дэканат Гродна-Усход), парафія Маці Божай Нястомнай Дапамогі

**28 верасня, пачатак у 18.00**
Масты (Мастоўскі дэканат), парафія Маці Божай Тройчы Цудоўнай

**29 верасня, пачатак у 18.00**
Новы Двор (Шчучынскі дэканат), парафія Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі

**30 верасня, пачатак у 15.00**
Лядск (Шчучынскі дэканат), парафія св. Станіслава, біскупа і мучаніка

*Да ўдзелу ў рэкалекцыях запрашаюцца ўсе жадаючыя. Больш падрабязную інфармацыю аб запланаваных рэкалекцыях можна атрымаць па тэлефоне: (8 033) 686-55-13, кс. Алег Пятрашка.*

### У ГРОДНЕ РАСПАЧЫНАЮЦЦА СУСТРЭЧЫ ШАНАВАЛЬНІКАЎ МАЦІ БОЖАЙ З ГАРЫ КАРМЭЛЬ

**Спатканні будуць праходзіць кожную першую суботу месяца пры касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля (мікрараён Дзевятоўка, вул. Курчатава, 41).**

Першая сустрэча адбудзецца 7 кастрычніка ў 10.00.

**План сустрэчы:**

- св. Імша
- адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту
- фармацыйная сустрэча

*Айцы кармэліты шчыра запрашаюць усіх шанавальнікаў Маці Божай з гары Кармэль і тых, хто носіць святы шкаплер, у Шкаплернае брацтва. Гэта супольнасць вернікаў, якая хоча пазнаваць кармэліцкую духоўнасць, жыць малітвай і паглыбляць яе, карыстаючыся духоўным досведам святых кармэлітаў. Жадаючыя маюць магчымасць прыняць з рук айцоў кармэлітаў босых святы шкаплер.*

### АБ'ЯЎЛЯЕЦЦА НАБОР СЛУХАЧОЎ НА КУРСЫ СЯМЕЙНАГА ЖЫЦЦЯ

**На вучобу могуць запісацца ўсе жадаючыя, якія зацікаўлены дабром сям'і. Курсы арганізаваны Канферэнцыяй Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі.**

Час навучання – 3 гады.
З'езды звычайна праводзяцца ў 2-ую суботу і нядзелю месяца па адрасе: Гродна, вул. Курчатава, 41 (Дзевятоўка).
Пасля заканчэння курсаў выпускнік атрымлівае дыплом, які дазваляе працаваць сямейным кансультантам пры парафіях, а таксама дыплом аб заканчэнні курса I ступені выкладчыка натуральнага планавання сям'і ў вобласці сімптатэрмальнага метаду.
Кваліфікацыйная размова для кандыдатаў адбудзецца 6 кастрычніка ў 18.00 па адрасе: Гродна, вул. Курчатава, 41, аўдыторыя № 5.

**З сабой неабходна мець наступныя дакументы:**

- уласнаручна напісаную заяву аб прыняцці на курс з матывацыяй свайго рашэння,
- уласнаручна напісаную аўтабіяграфію,
- рэкамендацыю ад пробашча,
- 2 фатаграфіі (3х4 см),
- ксеракопію дыплома аб заканчэнні навучальнай установы,
- ксеракопію пашпарта (старонкі 31–33).

*Тэлефон для даведак: (8 029) 588-42-73, Ірына Мялешка.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**17 верасня 1963 г.** – кс. прэлат Ігнат Альшанскі, *проб. Жалудок;*
**17 верасня 2003 г.** – кс. Антоній Юсель, *проб. Граўжышкі;*
**19 верасня 1939 г.** – кс. Антоній Твароўскі, *проб. Юрацішкі;*
**21 верасня 1978 г.** – кс. Казімір Радзішэўскі, *проб. Індура;*
**23 верасня 1996 г.** – кс. прэлат Антоній Банькоўскі, *проб. Асава;*
**24 верасня 1939 г.** – кс. Ян Крыньскі, *проб. Зэльва;*
**25 верасня 1933 г.** – кс. Ян Карвэліс, *проб. Дварэц;*
**30 верасня 1957 г.** – кс. Тэафіл Прышмант, *проб. Старыя Васілішкі;*
**30 верасня 1973 г.** – кс. Пётр Нямыцкі, *проб. Астравец;*
**1 кастрычніка 1984 г.** – кс. Казімір Валентыновіч, *проб. Мсцібава.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка* ***grodnensis.by***

# ВЫНІКІ КОНКУРСУ

# "Маё лета з Богам 2017"

**Сонца відаць усё менш і менш, дні становяцца карацейшымі. Але грэюць успаміны пра нядаўняе лета, якое было багатым на падзеі і ўражанні. Сваімі гісторыямі духоўнага адпачынку з задавальненнем дзеляцца чытачы "Слова Жыцця".**

## Хадзіце ў пілігрымкі!

*Шчасці Божа! Хачу падзяліцца ўражаннямі пра сваё сёлетняе пілігрымковае лета.*

*Першае пешае паломніцтва Гродна – Тракелі было спланавана загадзя, хоць думкі былі розныя, бо сабралася ісці з дзіцём. Цяжка? Але цвёрда запэўніла сябе, што ісці трэба. Ісці і дзякаваць Богу за дар мацярынства.*

*У дарозе я захаплялася тым, якія прыгожыя касцёлы ў Беларусі. А якія людзі! Пілігрымка аб'яднала нас нібы ў вялікую сям'ю. Гаспадары дамоў, што прымалі паломнікаў на начлег, віталі нас як родных, з якімі даўно не бачыліся, а на наступны дзень са слязьмі развітваліся і запрашалі ў госці. Усе абяцалі адзін аднаму, што абавязкова яшчэ сустрэнуцца.*

Мая 7-гадовая дачка Ангеліна разам з дапаможным біскупам Гродзенскай дыяцэзіі Юзафам Станеўскім

*У дарозе я пазнаёмілася з маладым хлопцам. Ніколі не магла падумаць, што мяне можа чамусьці навучыць 18-гадовы юнак. Мне 35. Але не кожны дарослы чалавек настолькі мудры, асвечаны дарамі Святога Духа, якім мне падаўся той хлопец. Уразілі яго супакой, самаадданая любоў да Бога і бліжняга, ахвярнасць, поўны давер Збаўцы. Я ўпэўнілася, што людзі не сустракаюцца выпадкова. Калі Бог паставіў кагосьці на жыццёвым шляху, значыцца, гэты канкрэтны чалавек патрэбны табе ў дадзены прамежак часу.*

*Пілігрымка перавярнула маё нутро, перамяніла свядомасць, прымусіла перагледзець свае адносіны з Богам. Я пачала вучыцца быць больш разважлівай, паступаць згодна з Божымі запаведзямі і цалкам давяраць Усемагутнаму, несці свой крыж, не наракаючы на Пана, і быць шчаслівай ужо тут і цяпер! За гэта ад усяго сэрца хачу падзякаваць Віталію Снапко з Жалудка. Маю надзею, што мы і надалей будзем падтрымліваць сувязь. Адчуваю, што яшчэ шмат чаму магу ў яго навучыцца.*

*Другая пілігрымка Гродна – Адамавічы – Навумавічы да месца спачыну бл. Мар'яны Бярнацкай таксама была на дваіх з дачкой. І трэцяя, Гродна – Навагрудак, падчас якой маліліся на зямлі, дзе мучаніцкай смерцю загінулі 11 бласлаўлёных сясцёр назарэтанак. Штодня ў пілігрымках маё дзіця пісала свае інтэнцыі, пасля чаго з трапятаннем сэрца чакала, калі іх агучаць у час ружанцовай малітвы.*

*На 4-ты дзень пілігрымкі я спыталася ў дачкі: "Можа, пад'едзеш крыху на машыне?". На што яна мне сур'ёзна адказала: "Мама, калі Езус нёс свой крыж, Ён жа не пад'язджаў". Гэтыя словы прабралі мяне да мурашак. Так гаворыць 7-гадовая дзяўчынка! Сапраўды, Бога можна сустрэць у кожным з нас.*

*У Бярозаўцы ад спадарыні Галіны мы атрымалі дарагі сэрцу падарунак – свечку, якая была запалена падчас малітвы біскупа на Вялікдзень у святыні Гроба Пана ў Ерусаліме. Да паўночы мы з ёю глядзелі дакументальны фільм. Мне тады падумалася: як шмат людзей яшчэ не вераць у Хрыста! Якое гэта цудоўнае пачуццё – ведаць, што Ён жыве ў сэрцы кожнага, трэба толькі гэта для сябе адкрыць.*

*На такім духоўным уздыме я вярнулася на працу, дзе яшчэ больш за тыдзень працавала як у сне – думкамі была ў пілігрымках, з тымі адкрытымі, добразычлівымі людзьмі...*

*Горача хачу заахвоціць усіх хадзіць у пілігрымкі, якія духоўна ўзбагачаюць, і... любіць бліжняга, як самога сябе!*

***Святлана Лукашэвіч**, Гродна*

## Гасціннасць – нацыянальная рыса і палякаў, і беларусаў



Радунская група разам са мной (з краю злева)

*Хвала Хрысту! Я з прыемнасцю прачытаў артыкул у "Слове Жыцця", які апісваў пілігрымаванне кс. Яна Раманоўскага ў Санцьяга-дэ-Кампастэла ў Іспаніі. Падумаў, што, можа, варта падзяліцца ўспамінамі з ліпеня бягучага года, калі мы запрасілі ў свой горад групу моладзі з Гродзенскай дыяцэзіі, з мястэчка Радунь. Маладыя людзі прыбылі ў Зялёнку каля Варшавы па запрашэнні гарадской гімназіі імя кардынала Стэфана Вышынскага разам са сваім апекуном кс. прэлатам Вітольдам Лазавіцкім. Такі вопыт быў для нас працягам XXXI Сусветных дзён моладзі, падчас якіх у межах Дзён у дыяцэзіях мы прымалі групы з Радуні (Беларусь) і Арла (Расія).*

*Сёлета сяброў з Беларусі чакала багатая і насычаная праграма адпачынку. Цэнтр культуры і спорту арганізаваў для маладых людзей інтэграцыйную гульню, падчас якой змешаныя беларуска-польскія групы павінны былі выканаць заданні на тэрыторыі горада, пры нагодзе пазнаючы геаграфію Зялёнкі. Аб тым, што варта марыць і рэалізоўваць свае жаданні, беларусы ўпэўніліся, знаёмячыся з постаццю даваеннага падарожніка Леапольда Янікоўскага, які некалі жыў у Зялёнцы. Ён удзельнічаў у даследчай экспедыцыі ў Афрыку, плёнам якой стала выданне кнігі "У джунглях Афрыкі. Успаміны з польскай афрыканскай экспедыцыі ў 1882–90 гадах".*

*Маладыя людзі выязджалі на экскурсію ў Варшаву, наведалі месцы, якія варта было паглядзець на Мазовіі: Жэлязову Волю, дзе нарадзіўся кампазітар Фрыдэрык Шапэн, палац Радзівілаў у Нябарове, Англійскі сад у Аркадзіі, скансэн – музей пад адкрытым небам у Серпцы. Радунская група наведала таксама 4 санктуарыі: Маці Божай Перамогі ў Осаве, Найсвяцейшай Панны Марыі Беззаганнай Усепасрэдніцы Ласкаў і св. Максімільяна Марыі Кольбэ ў Непакалянаве, Маці Божай Суцяшэння ў Чэрвінску над Віслай і святыню Божага Провіду ў Вілянаве.*

*Штодзённа моладзь з Радуні ўдзельнічала ў ранішняй св. Імшы ў касцёле Маці Божай Чанстахоўскай у Зялёнцы. Пасля таго, як пробашч абвясціў, што прымаем у сябе моладзь з Беларусі, парафіяне прынасілі хатнюю выпечку і зарыхтоўкі, ахвяравалі дадаткова на сняданкі разнастайныя прадукты (агуркі, дыні, перац). Калі аказалася, што адна з удзельніц, Аляксандра Адамоніс, мае Дзень нараджэння, кандытарская Алькоўскіх з Марак ахвяравала смачны імянінны торт. Не ўдасца пералічыць усіх праяўленняў уцягнутасці парафіян у справы, што датычылі гасцей з Беларусі ў Зялёнцы!*

*У той жа час радунская моладзь паказала палякам вялікую веру ў моц хрысціянства і засведчыла аб атрыманні ласкаў праз ружанцовую малітву. Іх сціпласць і жаданне пазнаваць свет заўважылі ўсе.*

*Ужо ў жніўні жыхары Радуні адплацілі гасціннасцю пілігрымам з Польшчы, якія вандравалі праз Беларусь у віленскую Вострую Браму.*

*Госць у дом, Бог у дом – сцвярджае прыказка. А іншая гаворыць, што падарожжы выхоўваюць. Без сумнення, так і ёсць.*

***Роберт Сарноўскі**, каардынатар валантарыяту ў Зялёнцы*

**За ўдзел у конкурсе творчых прац на абвяўленую тэму чытачы атрымліваюць ад рэдакцыі прызы.**




### Ці могуць католікі прымаць удзел у Фестывалі фарбаў?

*Для многіх маладых людзей Фестываль фарбаў – гэта, найперш, вялікая забава: музыка, танцы, добрая кампанія, а таксама размалёўванне сябе ці іншых рознымі колерамі. Хоць знойдуцца, напэўна, і тыя, хто палічыць такое свята неадпаведным, можа, нават дурным, а таксама небяспечным для здароўя. Дадзеныя сумненні належыць прызнаць цалкам разумнымі хаця б з таго пункту гледжання, што ўзгаданы фестываль – чужая з'ява, дагэтуль невядомая ў нашай культуры. Наконт яго пахожання, каранёў і зместу ў Беларусі вядома адносна мала.*

*Фестываль фарбаў – гэта індуісцкае старажытнае веснавое рэлігійнае свята, сапраўдная назва якога – холі. Згодна з традыцыяй, яно пачынаецца ўначы вакол распаленага вогнішча, дзе ўзносяцца малітвы аб перамозе над злом. Раніцай індусы абсыпаюцца каляровым парашком і абліваюцца вадой. Гэтаму спадарожнічаюць музыка, танцы, спевы і спажыванне розных страў і напояў, у тым ліку адурманьваючых. Вечарам удзельнікі свята, як势 стануць цвярозымі, мыюцца і прыбіраюцца. Згодна з вераваннямі, святкаванне прыносіць шчасце, здароўе і поспех.*

*Здаецца, у нашай краіне свята фарбаў носіць характар музычнага фестывалю і абмяжоўваецца толькі абсыпаннем каляровымі фарбамі без індуісцкай канатацыі. Калі так сапраўды, то сам удзел у падобнай забаве не з'яўляецца чымсьці дрэнным і, хутчэй за ўсё, не павінен пашкодзіць веруючаму чалавеку. Хоць да канца і невядома, хто з'яўляецца галоўным арганізатарам свята і якія яго намеры.*

*Належыць таксама памятаць, што часта нявінная на першы погляд забава можа прыводзіць да сур'ёзных па наступствах праблем духоўнай прыроды. У сувязі з гэтым, тым, хто ўдзельнічае ў дадзенай забаве, а таксама задумваецца аб удзеле ў ёй, трэба мець шырока адкрытыя вочы і вушы. Няма стопрацэнтнай упэўненасці, што пры нагодзе падобнага фестывалю не будуць распаўсюджвацца элементы індуісцкай духоўнасці ці спірытуалізму, што можа паставіць веруючага чалавека ў небяспеку аслаблення або страты веры, ці, не дай Бог, адкрыць на дзеянне дэманаў.*

*Зрэшты, асцярожнасць і чуйнасць – правільныя паводзіны верніка ў адносінах да ўсяго, што новае і адрозніваецца ад хрысціянства. Дапамогай у прыняцці рашэння аб удзеле ў падобных падзеях, а таксама іх маральнай ацэнцы можа быць пастаноўка пытання: ці з'яўляецца Езус Хрыстус выключным Панам? Ці нічога не аддзяляе мяне ад Яго? Немалаважна таксама практыкаванне сакрамэнтальнага жыцця, малітвы і запрашэнне Бога да прысутнасці ва ўсіх без выключэння сферах жыцця, у тым ліку на святкаванні па-за касцёлам.*

*А. Аркадзь Куляха OCD*
***Паводле grodnensis.by***




Скончыліся канікулы, ва ўсіх навучальных установах празвінеў першы званок. Дзеці накіраваліся ў школу, каб здабываць новыя веды, якія дапамогуць ім у будучым атрымаць прафесію. А ці абавязкова трэба далей наведваць заняткі катэхезы, калі ўжо хадзіў у мінулым годзе, рэгулярна бываеш у касцёле і ўмееш маліцца?

Усе мы як веруючыя людзі павінны пастаянна пазнаваць Стварцу. Заняткі рэлігіі адрозніваюцца ад школьных прадметаў, у асноўным, тым, што не проста навучаюць ведам, а запрашаюць да добрага жыцця, заснаванага на Божым кіраўніцтве. Тое, ці будзеш Ты выконваць сваю будучую прафесію культурна, з прысвячэннем, шмат у чым залежыць ад плёну катэхезы.

**Чаму трэба зноў хадзіць на катэхезу?**

**Сёння Тваёй увазе прапануем апавяданне Бруна Фэрэра "Вочы цесляра".**

**Вельмі даўно ў пэўным сяле існавала маленькая майстэрня цесляра. Аднойчы, калі гаспадара не было, усе яго інструменты склікалі агульны сход. Гаворка ішла аб выключэнні з магутнай высакароднай супольнасці некаторых яе членаў.**

**Адзін з удзельнікаў сустрэчы сказаў:**

**– Мы павінны выдаліць з нашых шэрагаў сястру Пілу, якая занадта вострая і скрыпіць зубамі. Яна мае вельмі знішчальны характар.**

**Нехта дадаў:**

**– Не можам таксама трымаць у нашых шэрагах брата Рубанка. Ён ні з чым не зграджацца і памяншае, абдзіраючы са скуры, усё, на што наткнецца.**

**– Мы добра ведаем, што жорсткі і гвалтоўны характар мае наш брат Малаток, – запярэчыў хтосьці іншы. – Я б сказаў, што ён любіць біць. Спосаб, якім Малаток настойвае на ўсім, невыносны, і яго голас зводзіць нас з розуму. Давайце пазбавімся Малатка!**

**– А Цвікі? – пачулася ў натоўпе. – Ці можаце вы жыць з тымі, хто чапляецца да ўсяго? Тое ж самае з Напільнікам і Скрабком. Зносіны з імі – гэта бесперапыннае трэнне. Няхай пакіне нас і Наждачная Папера, якая таксама бачыць адзіную жыццёвую мэту ў тым, каб пацерціся з усімі.**

**Такім чынам інструменты цесляра пачалі размаўляць паміж сабой усё больш галасна і энергічна, перабіваючы адзін аднаго. Малаток патрабаваў выдалення Напільніка і Скрабка, а тыя хацелі пазбавіцца Малатка і г. д. У выніку аказалася, што трэба выдаліць усіх.**

**Размову перапыніла раптоўнае вяртанне цесляра. Калі ўсе інструменты ўбачылі яго набліжэнне да працоўнага стала, адразу суцішыліся. Цясляр узяў дошку і распіліў яе вострай Пілой. Пасля апрацаваў дрэва Рубанкам, які выдатна памяншае ўсё, да чаго дакранаецца. Пасля мужчына ўзяў Скрабок, што прымае ўсё на зуб, потым схапіў Наждачную Паперу, якая сціраe і драпае. І, урэшце, узяўся за вельмі вострыя Цвікі і моцны Малаток, які добра б'е.**

**Усе свае інструменты, якія маюць такія невыносныя характары, цясляр выкарыстоўваў для вырабу калыскі. Прыгожай калыскі, што будзе служыць дзіцяці, якое хутка народзіцца. Усё гэта дзеля таго, каб прыняць Жыццё.**

Бог глядзіць на ўсіх нас вачыма цесляра. І Ён хоча, каб мы спаўна выкарыстоўвалі ўласныя таленты і ўсё больш пазнавалі і любілі Яго, бо для кожнага Усемагутны мае свой вялікі план.

*С. Вераніка Блізнюк FMA*



**Заданне:**

**памаліся за катэхетаў, якія на працягу года будуць дапамагаць Табе пазнаваць Бога.**

**Чакаем Тваіх "чаму", якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі.**

На пытанні заўсёды гатовыя адказаць салезіянкі са Смаргоні.

# Ад шчырага сэрца

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя і душэўнага супакою. Няхай Бог усемагутны ўзнагародзіць Вас за шчырыя малітвы, прыклад набожнасці і ўсе намаганні, якія Вы штодзённа прыкладаеце, клапоцячыся аб будаванні Божага Валадарства на зямлі.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Няхай заўсёды хапае сіл, запалу і стойкасці, каб імкнуцца да мэты ў пастырскім служэнні. Няхай кожная хвіліна жыцця будзе радасная і блаславёная Езусам Хрыстом. Няхай Пан адорвае Вас сваімі незлічонымі ласкамі, а Яго Маці заўсёды мае Вас у сваёй міласэрнай апецы. Памятаем і молімся.

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанай Сястры Марыі Стасевіч**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: Божага блаславлення на кожны дзень, шчодрых дароў Святога Духа, апекі Маці Божай, а таксама здароўя, сіл, супакою, надзеі і моцнай непахіснай веры.

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанай Сястры Філатэі Ціхановіч**

з нагоды Імянін жадаем шмат здароўя, шчасця, шчодрых Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Маці. У добрай справе няхай ласкава Бог Вас падтрымае, а Вашым марам і жаданням далоні адкрывае.

*З малітвай, Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Тадэвушу Качану**

з нагоды 80-годдзя перасылаем цёплыя і шчырыя пажаданні. У Ваш Дзень нараджэння хай ласкамі Пан дорыць, пакліканне ўзмацняе, засланяе, калі трэба, і прамой, надзейнай сцежкай Вас вядзе ў Неба. Сэрцам сваім святарскім спявайце гімн падзякі: за Хрысту служэнне, за жыццё адзнаку. А мы Ваш дзень святочны ўсмешкай апраменім і ўсе свае жаданні ў малітву пераменім.

*Парафіяне з Канвелішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны дзень Вашага жыцця будзе напоўнены Божым блаславеннем, радасцю і супакоем, а дабрыня і зычлівасць, якія дорыце людзям, няхай заўсёды да Вас вяртаюцца. Дзякуем за ўвагу і час, які ахвяруеце для нас.

*Парафіяне з Гродна-Аўгустоўка*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды Імянін жадаем шмат здароўя, поспехаў, сіл і стойкасці на шляху святарскай паслугі, шмат Божых ласкаў і апекі Найсвяцейшай Маці. Заўсёды будзьце для нас прыкладам моцнай веры і набожнасці. Дзякуем Вам за ўсё. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Капцёўкі*

**Паважанай Спадарыні Ірыне Пячынскай**

з нагоды 75-годдзя перасылаем букет найлепшых пажаданняў: здароўя, поспехаў ва ўсіх справах, добразычлівых людзей побач, душэўнага супакою і няспыннай штодзённай радасці. Няхай Маці Божая атуляе Вас сваім плашчом і адорвае ўсімі ласкамі.

*Кола Жывога Ружанца, Сапоцкін*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Жураўскаму**

з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, душэўнага супакою, шчасця, радасці, дабрыні і любові на кожны дзень. Няхай Пан блаславляе Вас, Святы Дух адорвае сваімі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці нястомна атуляе пяшчотай сваёй любові. Добрых і зычлівых людзей побач. Шчасці Божа!

*Былыя парафіяне*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Жураўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, блаславляе кожны дзень Вашай святарскай паслугі, а Найсвяцейшая Маці і святы Заступнік ахінаюць сваёй апекай заўсёды і ўсюды. Жадаем моцнага здароўя, сапраўднай радасці і супакою.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Уладзіміру Шкурынскаму**

з нагоды Дня нараджэння шчыра жадаем моцнага здароўя, шчасця, цярплівасці, добрых і зычлівых людзей навокал. Няхай радасць і супакой заўсёды будуць у Вашым сэрцы, Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, Святы Дух дапамагае стойка выконваць святарскую паслугу, а Анёл-ахоўнік заўсёды будзе побач. Вы для нас – прыклад глыбокай малітвы, мудрага слова і моцнай веры. Аддзяч, Божа!

*З малітвай і ўдзячнасцю, апостальства "Маргарытка"*

**Шаноўная Спадарыня Клара Стэцкевіч!**

З нагоды Імянін складаем Вам, маме пробашча нашай парафіі ксяндза Міхала Стэцкевіча, самыя шчырыя словы ўдзячнасці за цудоўны прыклад мацярынскай любові, за штодзённы клопат і недаспаныя ночы, за ўсё тое, дзякуючы чаму зараз маем такога душпастыра і добрага дарадцу ў любой справе. Жадаем, каб Бог заўжды выслухоўваў Вашыя малітвы і працягваў руку дапамогі ў цяжкія хвіліны, каб жыццёвы шлях не губляў напрамку праведнасці і дабрыні, каб сэрца выпраменьвала любоў. Няхай Анёл-ахоўнік распрастае над Вамі свае крылы, аберагаючы ад усіх трывог і адорваючы цела моцай, а душу – унутранай гармоніяй.

*З бязмежнай удзячнасцю, парафіяне з касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Бердаўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Валчкевічу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай: шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, няспыннай апекі Маці Божай, стойкасці на святарскім шляху, а таксама людской зычлівасці. Вельмі ўдзячныя Пану Богу за тое, што ў нас служыць святар, які вучыць быць сапраўднымі хрысціянамі, шчыры ў малітве і ў працы, заўсёды гатовы прыйсці на дапамогу. Мы шчаслівыя, што Вы з намі. Дзякуем за працу ў нашай парафіі, мудрыя і пабучальныя казанні, дабрыню і цёплы клопат пра людзей, а Вашым бацькам – за сына святара.

*Легіён Марыі, Ружанцовае кола з парафіі св. Яна Паўла ІІ у Смаргоні*

**Паважаным Ксяндзам Юрыю Ёдзіку і Віталію Цыбульскаму**

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог адорвае Вас найлепшым здароўем, Найсвяцейшая Маці мае ў сваёй апецы, святы Заступнік нястомна дапамагае, а Святы Дух адорвае патрэбнымі ласкамі. Жадаем таксама радасці, сіл, людской зычлівасці і стойкасці ў працы.

*Апостальскі рух "Маргарытка" і Легіён Марыі з парафіі св. Яна Паўла ІІ у Смаргоні*

**Паважанай Сястры Веранiцы Огар**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны дзень будзе шчаслівы і блаславёны, міласэрны Бог нястомна ўмацоўвае ў пакліканні, адорвае патрэбнымі ласкамі, а Марыя Панна ахінае мацярынскай апекай. Дзякуем за добрае сэрца і цудоўны прыклад веры.

*Дзеці, моладзь, парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму**

з нагоды Дня нараджэння жадаем, каб добры Бог разам са Святой Панняй даў усё, што патрэбна, а ў першую чаргу – здароўе.

*Сям'я Марцінкевічаў з Сапоцкіна*

**Паважанаму Ксяндзу Анджэю Ганчару**

з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, усмешкі, добразычлівых людзей на жыццёвым шляху, а таксама сіл, радасці, задавальнення і шчодрага плёну ў нялёгкай душпастырскай працы. Няхай Святы Дух штодня апраменьвае Вас сваім святлом, міласэрны Бог заўсёды аберагае, а Найсвяцейшая Маці атуляе мацярынскай апекай.

*З малітвай, апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог узнагароджвае Вас моцным здароўем, стойкасцю і сілай, Маці Божая апекуецца Вамі і блаславляе на доўгія гады жыцця, атуляе плашчом любові Беззаганнага Сэрца. Няхай Святы Дух спасылае свае дары, асвячае святарскі шлях і дапамагае годна выконваць душпастырскую паслугу. Дзякуем за Вашы малітвы, зычлівасць, ахвярную і адданую працу пры аднаўленні святыні, лагодную ўсмешку і добрае сэрца. Заўсёды памятаем пра Вас у малітвах.

*Ружанцовыя колы, Апостальства дапамогі чысцовым душам і ўдзячныя парафіяне з Радуні*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў: усіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, штодзённай апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка. Няхай здароўе, шчасце і радасць заўсёды госцяць у Вашым доме, а ўсё, што не ад Бога, ніколі не здолее прабіць сцяну веры і надзеі.

*Францішканскі ордэн свецкіх, Кола Жывога Ружанца і апостальства "Маргарытка" з Сапоцкіна, вернікі з в. Галавенчыцы*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Сарэлу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады святарскай паслугі, шчырых і верных людзей навокал, вялікай Божай ласкі і няспыннай апекі Марыі Панны на шляху служэння Богу і людзям. Дзякуем за той час, калі Вы былі з намі, за супольныя малітвы і ўвагу да кожнага верніка.

Дапамагай Вам, Божа, у нялёгкім святарскім шляху!

*Вернікі з Воўпы*

**Паважанаму Айцу Багуславу Вуйтовічу**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, стойкасці на нялёгкім святарскім шляху і ўсіх Божых ласкаў.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Гальшанаў*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Стэцкевічу**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады, радасці і цярплівасці ў нялёгкай святарскай паслузе. Няхай кожны дзень прыносіць Вам радасць і сілы для абвяшчэння Божага слова.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Бердаўкі і Першамайска*

**Паважанаму Ксяндзу Яцэку Маркелю**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя. Няхай Езус, якога Вы кожны дзень трымаеце ў сваіх далонях, блаславляе Вас на святарскім шляху, а Маці Божая няхай абараняе сваёй любоўю і атуляе мацярынскай апекай.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Зэльвы*

**Паважанаму Ксяндзу Яцэку Маркелю**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, душэўнага супакою, цёплых сонечных дзён, напоўненых шчасцем і радасцю. Няхай добры Бог блаславляе Вас у складанай святарскай паслузе, Маці Божая нястомна апекуецца, а святы Заступнік дапамагае ў кожную хвіліну жыцця. Заўсёды памятаем пра Вас у сваіх малітвах. Шчасці Божа!

*Сем'і Трубей і Раманчук, былыя парафіяне з Зэльвы*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку словы глыбокага спачування ў сувязі са смерцю брата складаюць парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Гнезне**

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч**; Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл: **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 4600; тыраж 4945; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная